


№24 (117) верасень 1998 г.

# ШАНУЙМА БЕЛАРУСЬ !

*(Ліст да школьнай моладзі)*

**Дарагія хлопцы і дзяўчаты!**

Вы жывяце ў вельмі прыгожай краіне, якая называецца Беларусь. У нас найпрыгажэйшая ў сьвеце зямля, палі, ўзгоркі, лясы і рэкі. У нас самае блакітнае неба і найбялейшыя воблакі. Таму і людзі нашы, беларусы, самыя прыгожыя ў сьвеце. Нідзе няма нічога лепшага і прыгажэйшага за Беларусь. (А я ўжо трохі паезьдзіў па сьвеце і паназіраў.) Нездарма вялікія людзі нашай Бацькаўшчыны гэтак моцна любілі яе.

— Каго любіш? — Люблю Беларусь.

—Дык узаемна, — такі быў пароль Кастуся Каліноўскага. А вы ведаеце, што Кастусь кіраваў паўстаньнем і змагаўся са зброяй у руках за волю і свабоду Беларусі.

Сярод каліноўцаў было шмат юнакоў, вучняў менскай гімназіі і іншых маладых абаронцаў Беларусі. Старэйшыя хлопцы змагаліся з шаблямі на конях. Малодшыя ў гімназіях — выкідвалі з клясаў партрэты рускага цара, пісалі на сьценах патрыятычныя лёзунгі, сьпявалі песьні і гімны, палілі расейскія сьцягі. Быў час, што акупанты нават зачынілі Менскую гімназію, бо нічога не маглі зрабіць з супраціўленьнем гімназістаў.

Расейскі імпэрыялізм і за царамі, і за бальшавікамі, і за „дэмакратамі", дзе б ён ня быў, імкнуўся паўсюдна падпарадкаваць сабе дзяцей і моладзь. Імпэрыялісты ўводзілі рускія школы і расейскую мову ў школах, уносілі туды свае крывавыя сьцягі і партрэты сваіх начальнікаў і, галоўнае, пачыналі хлусіць дзецям, ашукваць моладзь, паклёпнічаць на вялікіх беларусаў і навязваць свае кніжкі, сваіх багоў і герояў, якія на самай справе былі бандытамі — такія, як Сувораў, Пугачоў, Сьценька Разін, Ленін, Сталін, Дзяржынскі.

Але ня ўсюды ім ўдавалася. Калі ў Польшчы, напрыклад, пасьля 2-й Сусьветнай вайны прыслалі ў школы рускіх настаўнікаў выкладаць па-руску, то польскія дзеці закідалі іх чарнілкамі (спэцыяльныя бутэлечкі, у якія налівалі чарніла). Расейцы з чым прыехалі, з тым і паехалі. Потым з тых польскіх дзяцей вырасьлі людзі, што стварылі арганізацыю „Салідарнасьць", скінулі камуністаў і выгналі з Польшчы савецкія войскі. Цяпер Польшча вольная незалежная краіна.

У 1991 годзе мы таксама вярнулі нашу беларускую дзяржаўную незалежнасьць. Але потым зьявіўся прэзыдэнт Лукашэнка, які пачаў гандляваць незалежнасьцю Беларусі і сумесна з расейцамі зьнішчаць наш суверэнітэт; ліквідаваў незаконна Канстытуцыю, Канстытуцыйны Суд і парлямант. Раней Лукашэнка быў намесьнікам начальніка турмы па гаспадарчай частцы, потым кіраваў калгасам і супрацоўнічаў з КДБ. Стаўшы прэзыдэнтам, ён загадаў свайму АМАПу і „Спэцназу" зьбіваць беларускую школьную моладзь палкамі па галовах, хапаць і кідаць у турму, бо беларуская моладзь не прызнае лукашэнкаўскага савецкага сьцяга, яго гэрба „капусты" і ня любіць самаго Лукашэнку, лічыць яго за дурня.

Такога няма нідзе на сьвеце, нават у самых жорсткіх рэжымах, каб паліцыя (міліцыя) зьбівала дзяцей за тое, што яны любяць Бацькаўшчыну і родную мову. Такога няма нідзе на сьвеце, каб прэзыдэнт краіны зачыняў бы нацыянальныя школы і ўводзіў чужыя, каб аддаваў бы загады спальваць нацыянальныя падручнікі і кніжкі, а вучняў школ, якія пішуць на сьцяне „Люблю Беларусь і не люблю прэзыдэнта", кідаў бы ў турму і зьдзекваўся над імі. А гэта ўсё таму, што прэзыдэнтам у нас чужы злы чалавек.

Той, хто быў на судзе ў Менску над ВадзімамЛабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім, бачылі і чулі, як суддзя-расеец (Лаўроў) зьдзекваўся зь беларускай мовы і паводзіў сябе як палітычны правакатар, зьневажаў беларусаў у зале, дэманстраваў, што „судзіць" юнакоў за тое, што яны беларусы і любяць Беларусь. А ўзброены лукашэнкаўскі АМАП у гэты час акружыў суд і бяспрычынна зьбіваў людзей, што стаялі перад будынкам суда. 1 асабліва школьную моладзь.

Чаму такое абываецца ў Беларусі? А таму, што гэта акупацыйны антыбеларускі суд і акупацыйны прарасейскі рэжым. Яны судзяць не па закону, а па беззаконьню, па загаду Лукашэнкі.

Па сапраўдных беларускіх законах не павінна быць такога суду. Але Лукашэнка не выконвае законаў. А калі законаў не выконвае прэзыдэнт,то ці павінны тады іх выконваць астатнія людзі? Закон жа для ўсіх адзін. Калі разьвязаныя рукі ў суда і ў Лукашэнкі, то чаму яны павінны быць зьвязаныя ў грамадзянаў Беларусі? Ці павінны беларусы цярпець, каб маскаль пляваў ім у твар, як той суддзя Лаўроў?

І яшчэ пытаньне. Калі Лукашэнка аб'явіў вайну беларускай школе, беларускім дзецям і беларускай школьнай моладзі, то што яны мусяць рабіць? Упакарыцца, каб лупілі, як раба, па галаве, глядзець на яго „капусту" і фізіяномію, ці змагацца за сваё беларускае права і беларускую маладую чалавечую годнасьць?

Школьная моладзь цяпер мае права на барацьбу і яна змагаецца. 16-гадовы Вадзім Лабковіч, вучань 11 кляса 95-й школы г.Менска сапраўдны герой. Ё н самы малодшы з трох палітычных вязьняў, якіх Лукашэнка незаконна і без суда кінуў ў турму, але калі несправядлівы суд над двумя зь іх, Лабковічам іШыдлоўскім, пачаўся, то Вадзім трымаўся як сапраўдны беларус. Калі суддзя-расеец спытаўся, чаму ён зьняў лукашэнкаўскі сьцяг і на яго месца павесіў беларускі бел-чырвона-белы, Вадзім адказаў: „Таму што там павінен вісець беларускі дзяржаўны сьцяг." І суддзю не было чаго казаць.

Сапраўдным дзяржаўньм сьцягам Беларусі зьяўляецца беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, якому ўжо больш за паўтысячы гадоў, а не нейкая лукашэнкаўская савецкая ануча, якую прыдумалі бальшавікі ў 1952 годзе. Лукашэнкаўскі сьцяг ня наш, не беларускі і незаконны.

Гэты яго ненармальны сьцяг і гэрб не павінны быць у беларускай школе. Выкідвайце іх вон. Трэба шанаваць наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг і дзяржаўны гэрб „Пагоня".

А калі настаўнікі пачнуць казаць што-небудзь супраць Беларусі ці супраць беларускай мовы, ці супраць Беларускага Народнага Фронту, то гэта не настаўнікі, а лукашэнкаўскія халуі і акупанты. Ня трэба слухаць такіх настаўнікаў, бо яны нічаму добраму не навучаць. Беларус не павінен зьневажаць сам сябе, сваю беларускую мову, сваю Бацькаўшчыну, гісторыю і культуру. Гэта могуць рабіць хіба што зусім цёмныя, дурныя і адсталыя людзі, альбо ворагі беларушчыны. Калі будзе наша беларуская ўлада, то ад такіх гора-настаўнікаў у школе і духу не застанецца.

Я жыў на Віленшчыне і, памятаю, пайшоў у школу яшчэ пры Сталіне. Настаўнікі ўсхвалялі бандыта Сталіна, казалі, што Бога няма і абзывалі беларусаў „мужыкамі" (гэтак называць патрабавалі бальшавікі). Але мы, дзеці, не зважалі на такіх настаўнікаў, а слухалі, што казалі між сабой паважаныя разумныя людзі. Цяпер усім зразумела, што тады мы, дзеці, жылі па праўдзе.

Па праўдзе жыць добра і легка. Бо сумленьне чыстае. Хораша жыць сярод добрых людзей у вольнай, сьветлай краіне, на прыгожай, прачыстай беларускай зямлі, пад цёплым, Боскім беларускім небам. Гэты рай ёсьць Бацькаўшчына. Яна ў сэрцы і вакол нас. Шануйма ж яе, як Бога, як бацьку і маці, як здароўе, як сьвятое, як скарб, як Божы дар, як паветра. Мы — грамадзяне сьветлай Беларусі.

**Зянон ПАЗЬНЯК, Старшыня БНФ „Адраджэньне"** **26 лютага 1998 г.**

# СТАРШЫНЯ ВІЦЕБСКАЙ РАДЫ "ВЫБАР" БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" УЛАДЗІМІР ПЛЕШЧАНКА ЗА КРАТАМІ

У ноч з 31 жніўня на 1 верасьня зьнік бюст расейскага пакаводца А.Суворава, які стаяў каля гарваенкамату і Кастрычніцкага РАУС. Адказнасьць за акцыю ўзяў на сябе лягендарны Мірон.

Да пастамэнту была прымацаваная цыдулка наступнага зьместу:

**"У 1794 годзе Сувораў патапіў у крыві паўстаньне беларусаў за незалежнасьць супраць расейскай акупацыі. Для расейцаў ён герой, для нас, беларусаў, — акупант. Помнікі Савораву на Беларусі — гэта ганьба беларускага народа. Група беларускага вызвольнага руху Мірона яе цярпець ня будзе.**

**Прэч акупантаў з нашай зямлі!"**

Раніцай 2 верасьня затрымалі спадара Уладзіміра Плешчанку па падазрэньні, што ён дапамагаў Мірону ў гэтай справе. Зараз ён знаходзіцца ў сьледчым ізалятары па вул.Гагарына.



23 верасьня ў Кастрычніцкім судзе разглядаліся скаргі Ул.Плешчанкі і яго адваката Ул.Шайкевіча адносна зьмяненьня меры ўтрыманьня. Але суд адмовіў з прычыны таго, што ў абвінавачваньні супраць Плешчанкі прадугледжваецца мера пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня волі.

Ніжэй мы друкуем сьпіс тых, хто ўзяў на сябе адказнасьць за стан здароўя нашага сябра: супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС — падпалкоўнік Заблоцкі, сьледчы Аўчыньнікаў, старшы сьледчы Гінько, намесьнік пракурора Кастрычніцкага раёна Казлоў, судзьдзя гэтага ж раёна Казлоў (аднафамілец). Ё сьць яшчэ некалькі прозьвішчаў супрацоўнікаў упраўленьня КДБ па Вітабскай вобласьці й абласной вертыкалі, але пра іх мы паведамім пазьней.

Па меры ўтрыманьня сп.Плешчанкі ў СІЗО сьпіс будзе папаўняцца. Сачыце за нашымі публікацыямі.

Рэдакцыя

# ЗА ВОЛЬНУЮ, НЕЗАЛЕЖНУЮ І ШЧАСЬЛІВУЮ БЕЛАРУСЬ!

Дазвольце пазнаёміць вас, мае сябры, з маім асабістым флюгерам (мірорончыкам), пад якім я змагаюся разам з вамі за шчасьлівае жыцьцё для нашых нашчадкаў.

Мал. 1

У стане спакою, на белым фоне трохкутнага флюгеру чырвоным колерам пазначаная літара М (мал.1), што азначае, па-першае, прыналежнасьць флюгера Мірону, а па-другое, што Мірон выступае толькі за мірны шлях вырашэньня ўсіх праблематычных пытаньняў да таго часу, пакуль не навісне рэальная пагроза суверэнітэту Беларусі.

Перакуленая белая літара Λ (мал.1с) азначае, што Мірон рабіў усё, каб зьмяніць сьветапогляды жыхароў Лёзьненшчыны, скасаваць заслону цемрашальства, паказаць карані — культуру, мову, сымбалі і традыцыі.

Тры белыя трохкутнікі на флюгеры пацьвярджаюць залаты хрысьціянскі дагмат — трыядзінства.

Мал. 2

У паходным стане (мал.2) літара М на флюгеры ператвараецца ў чырвоную маланку на белым фоне.

Хто з нас ведае адзіна правільны шлях да ісьціны? Ніхто! Таму ў парляманце краіны і павінна прысутнічаць апазіцыя. Нельга дапускаць, каб кіраваньне дзяржавай ажыцьцяўлялася з пастаянным ухілам у адзін бок. Напачатку такога кіраваньня будзе ўздым, потым затрымка і, урэшце, падзеньне. Калі ўвесь час гнуць у адзін бок, атрымаецца дуга і ў выніку мы вернемся да таго, з чаго пачыналі. А калі парлямэнт, на законных падставах, будзе зьмяшчаць пэўны працэнт апазіцыі, то зь невялікімі хістаньнямі ўправа-ўлева, будзе назірацца шлях наперад.

Мал. 3

А пад час пагоні, перад тым, як кінуцца ў бойку (чырвоны колер на мал.3) з утрая пераўзыходзячым у сілах ворагам (тры белыя трохкутнікі на мал.3), белая стрэлка (мал.3А) нагадвае:

— Азірніся на свае тылы, бо ад іх добрай падрыхтоўкі і зладжанай працы залежыць наша перамога.




Флюгерам "міронччык" дазваляецца карыстацца ўсім, чые погляды на жыцьцё супадаюць з поглядамі аўтара. Тым, хто вядзе амаральны лад жыцьця, карыстацца флюгерам ЗАБАРАНЯЕЦЦА!

*<u>Ад рэдакцыі:</u> матэрыял трапіў да нас з крыніцаў, вартых даверу.*

Мірон

# АД МІРОНА СУВОРАЎ ПАБЕГ

(левае фота— 31 жніўня, праве— 1 верасьня)







Што клёпкі трэцяй не стае
У галаве яго,
То гэта, родныя мае,
Чуў шмат я ад каго;

Але каб ў пекле аж на дне
Сядзеў, хто лгаць пасмеў:
Ё н іх і з роду, верце мне,
Ніводнае не меў.

Янка Купала

*Сатырычным пяром*

# КРЫНІЦЫ АСАБІСТАГА ДАХОДУ ПРЭЗІДЭНТА ЛУКІ МУДЗІШЧАВА

Завялікія амбіцыі прэзідэнта— царстваваньне ў агромністай Азіопіі, а затым і ва ўсім праваслаўным сьвеце— патрабуюць вялікіх грошаў. Высокі пост, адсутнасьць усялякіх маральных прынцыпаў і выгаднае геаграфічнае становішча маленькай Рэспублікі азёраў і лясоў даюць яму магчымасьць "хапнуць" некалькі мяхоў даляраў.

Спынімся на некалькіх крыніцах, існуючых у цяперашнім часе. Адна з асноўных крыніцаў— гэта продаж зброі, амаль трэцяя частка якой засталася ад сканалай імпэрыі. Па ацэнках экспертаў сумы складаюць больш за мільярд даляраў. Так што, калі дзесь на плянэце йдзе лакальная вайна ці тэрарысты захапілі заложнікаў -- ня выключана, што скарыстоўваецца менавіта гэтая зброя. Другой крыніцай зьяўляецца звычайная камерцыйная дзейнасьць. Кіраўніцтва справамі прэзідэнта стварыла шэраг камерцыйных фірмаў, вызваленых ад усялякіх падаткаў. Такіх фірмаў штосьці каля двухсот, аднак найбольш заўважнымі й прыбытковымі зьяўляюцца "Ворэкспо" і "Фонд Известного Танцора". Асноўны асартымент гэтых фірмаў складаюць гарэлка, цыгарэты ды аўтамабілі. Маштабы іх дзейнасьці велізарныя— напрыклад, на чыгуначнай станцыі сталіцы адной толькі гарэлкі назьбіралася некалькі эшалонаў. (Была невялічкая замінка з мытняй Азіёпіі). Аднак жа й гэты "залежалый товар" прадалі. Гадавы прыбытак— каля мільярду даляраў. Фактычна гэтыя грошы скрадзеныя ў даверлівага народу. За карыстаньне імі прэзідэнт Лука Мудзішчаў, зразумела, справаздачы нікому не дасьць.

Наступнай "прыстойнай" крыніцай прыбытку зьяўляецца эксплуатацыя гатэлеў, дамоў адпачынку, санаторыяў, або проста спадабаўшыхся будынкаў у сталіцы й іншых гарадах рэспублікі. Гэтыя будынкі фактычна адбіраюцца ва ўласьнікаў. Часам нахабства кіруючай "верхушкі" не мае межаў: у 1997 г. спрабавалі адабраць у школьнікаў будынак іх навучальнай установы, а ў дзетак супрацоўнікаў паліцыі— будынак дзіцячага садка. Усе атрыманыя грошы робяцца ўласнасьцю прэзідэната. Гадавы прыбытак— каля 800 млн. даляраў.

Абедзьве гэтыя крыніцы кантралююцца правай рукой Мудзішчава "завхозам Ванюшей". Меньшая частка грошай— каля 500 млн. даляраў— захоўваецца на асобым рахунку прэзідэнта "в Отечестве", большая ж частка— звыш мільярда даляраў— за мяжой: Нямеччына, Швайцарыя, Аргентына.

Ё сьць і іншыя крыніцы прыбытку. Напрыклад, адна вядомая замежная фірма, рызыкнуўшая падзарабіць, выплочвае падатак ведамству "завхоза Ванюши", назамест таго, каб плаціць іх дзяржаве. Грубае вымагальніцтва (фактычна той жа рэкет) кіраўніцтва справамі прэзідэнта меў месца і ў дачыненьні да розных гуманітарных фондаў. Альтэрнатыва гэткая— палову грошай прэзідэнту, а на астатнія можаце быць гуманнымі колькі зажадаеце. У іншым выпадку— вымятайцеся з Рэспублікі азёраў і лясоў. Хто заплаціў— застаўся, хто не— зьехаў. Уціск аказваўся вельмі грубы, гуманітарныя грузы арыштоўваліся, нават калі гэта былі хутка псуючыяся лекі. Быў нават сьмяротны выпадак— дзяўчынцы патрабаваўся інсулін, якога ў аптэцы не было, а агромністая партыя гэтых лекаў была затрыманая, і захоўвалася у непрыстасаваным для гэтага спортзале нейкай школы. Дзяўчынка памерла...

Наступная крыніца прыбытку, яшчэ больш сакрэтная за папярэднія, але рэгулярная. Яна пад кантролем сакратара Рады Бясьпекі таварыша Шэльмана. У яго маецца цікавая папка з дакументамі, якую можна было б назваць гэтак: "Структура бандфармаваньняў рэспублікі". Дадзеныя падзеленыя па гарадах. Колькасьць групаў, кіраўніцтва, аб'ём кантралюемага капіталу, прыбытак, тэлефоны, прозьвішча й мянушка аўтарытэту, колькаснаць кожнае групы. Найдакладнейшая інфармацыя атрыманая з розных крыніцаў: спецслужбы й паліцыі. Усе яны абкладзеныя падаткам, зразумела ў чыю карысьць. Агульная сума вядома толькі таварышу Шэльману. Злосныя неплацельшчыкі караюцца. За ўвесь час кіраваньня Лукі Мудзішчава не было ніводнага буйнога працэсу, зьвязанага зь ліквідацыяй банды. Ніводзін завадатар не сеў у турму, наадварот, гэта паважаныя людзі, якіх лічаць за вялікі гонар запрасіць на розныя неафіцыйныя мерапрыемствы. Затое вельмі шмат людзей, што селі нізавошта. Ці ты вядомы журналіст, ці герой працы, ці міністар,— але калі ты сказаў ці, барані Божа, зрабіў штосьці насуперак Мудзішчаву— пасадзяць.

Не вельмі арыгінальнай, але досыць стабільнай зьяўляецца шчэ адна крыніца прыбытку прэзідэнта. У свой час ён дазволіў "святым отцам" праваслаўнай царквы бязпошлінна гандляваць гарэлкай. Выгнаньне Хрыстом гандляроў з храма "святые отцы" пасьпяхова забыліся, і энергічна распачалі гандаль "зялёным зьмеем". Як вада з-пад крана пацяклі даляры. "Отцы" нарадавацца не могуць. Ды вось бяда— аб гэнай цудадзейнай крыніцы не забыў і прэзідэнт, які, растлумачыўшы ашаломленым "отцам", што "Господь велел делиться", перыядычна выціскае з царкоўнае касы патрэбную порцыю "зялёных", не раўняючы, што тую пасту зь цюбіка. Прычым гэтак безцэрымонна, што нават "смиренные отцы" пачынаюць абурацца.

Грошаў на рахунках прэзідэнта сабралася шмат. А трэба ўспомніць, што яго бізнэс пачынаўся нагэтулькі проста й, я б адзначыў, нагэтулькі вынаходніцкі, што ў час Астапу Бэндару пазайздросьціць.

Колькі год таму бравыя хлопцы "Лука, Віцёк і Ванюшка" ськінуліся ў шапку ды набылі ў аднаго "крутога" хлопца "Мерседэс" прадзіраўлены куляй. Потым, пад час выбарчай кампаніі, гэты "Мерседэс" стаў асноўнай дэкарацыяй інсцэніроўкі "покушения на борца с мафией и коррупцией". Нават дзірка ад кулі ўжо была. "Ванюшка" не будзь дурань і добра разумеў свайго шэфа, а таму, зразумела, добра чуў, як ціўкнула па дзьвярах машына "бандитская пуля". Нічога кепскага тая міфічная куля Мудзішчаву не зрабіла, затое пасадзіла ў крэсла прэзідэнта Рэспублікі азёраў і лясоў. Ну вельмі тут даверлівы народ жыве, што зробіш... Гэтая рыса нацыянальнага характару ў сукупнасьці з патрыманым "Мерседэсам" і дала вышэй названай троіцы доступ да дзяржаўнай скарбніцы.

Зараз прэзідэнта не хвалюе, што дзякуючы яму 90 адсоткаў насельніцта жабракі. Яны ж усё адно вераць, што ён "чэсны", як той цыган, што прадае на кірмашы коней. Вераць нават ў тое, што прэзідэнт можа кіраваць законамі эканомікі й прыроды, у тое, што спыніць абвал курса "зайчыка". А калі зьнікнуць з крамаў вопратка й прадукты -- паверацць, што гэта штукі імперыялістаў. Хутчэй за ўсё амерыканскіх... Ну што тут скажаш? Але ж есьць у гэтай краіне й разумныя людзі. Прыйдзе час і Лука Мудзішчаў будзе адказваць за сваю дзейнасьць. І не ўратуюць яго тыя даляры, што зараз ляжаць у розных банках. А царстваваньня ў вялізарнай Азіёпіі яму не будзе, хаця й вельмі хочацца...

**Былы афіцэр "спецслужбы", а зараз пенсіянер Урал Латыпа**

*Адкрыты ліст*

# МЭРУ МАСКВЫ ЛУЖКОВУ Ю.М.

Паважаны Юры Міхайлавіч!

Даводжу да Вашага ведаму, што ў ноч з 31 жніўня на 1 верасьня на адной з цэнтральных вуліцаў горада Віцебска мною быў учынены дэмантаж бюсту расейскага ваеначальніка Аляксандра Суворава.

Для расіянаў гэты чалавек, несумненна, зьяўляецца нацыянальным героем, які агнём і мячом пашыраў межы Расейскай імпэрыі. Для грамадзянаў Беларусі — гэта кат, што жорстка патапіў у крыві паўстаньне за незалежнасьць Тадэвуша Касьцюшкі ў 1794 годзе, што мела трагічныя наступствы для беларускай дзяржаўнасьці.

На працягу шматлікіх стагоддзяў пад беларускім дахам мірна суіснавалі розныя нацыянальнасьці, у тым ліку й рускія, якіх зараз тут налічваецца 1,5 млн. Беларус заўжды даваў у сваёй хаце прытулак усім, хто меў у тым патрэбу, амаль нічога, апроч павагі да гаспадара, не патрабуючы.

Ушанаваньне памяці Аляксандра Суворава на Беларусі зьяўляецца абразай нацыянальных пачуцьцяў кожнага сьвядомага беларуса й ценем кладзецца на дабрасуседскія стасункі дзьвюх краінаў.

Фактычна без пашкоджаньняў зьняўшы з пастамэнту бюст, я нарэшце даў уладам зачэпку падумаць: ці патрэбны такі манумэнт у нашым горадзе? Ці можна рабіць у хаце перабудову бяз згоды гаспадара? Тым больш, што ўжытыя раней грамадзкасьцю горада цывілізаваныя захады да ўзнаўленьня гістарычнай праўды не далі ніякіх вынікаў.

Нядаўна з адной мясцовай газэты мне стала вядома, што ўлады зьбіраюцца аднавіць бюст на ранейшым месцы. Калі так адбудзецца, то я не магу гарантаваць непарушнасьць гэтае скульптуры на будучае.

Мне вядома, што амаль у кожным публічным выступленьні Вы выяўляеце сябе захавальнікам расейскіх традыцыяў. Калі Вы не на словах. а на справе шануеце гісторыю расейскай дзяржавы, то, на мой погляд, было б мэтазгодна забраць у віцебскіх уладаў бюст Аляксандра Суворава ў Маскву. Там ён будзе да месца. Ну а на якой з вуліцаў ці плошчаў расейскай сталіцы ўсталяваць выяву зь гіпсу й мармуровай крошкі — вырашаць масквічам.

Разьлічваю на ўзаемаразуменьне.

**Мірон**

***Ад рэдакцыі:** матэрыял атрыманы з крыніцаў,вартых даверу.*

# НАПЯРЭДАДНІ ГРАНДЫЁЗНЫХ ПАДЗЕЯЎ

(прагноз)

Беларускія ўлады паводзяць сябе так, нібы не йснуе крызісу ў суседняй Расеі. Але ў бліжэйшы час тамтэйшыя падзеі могуць істотна паўплываць на палітычныя падзеі на Беларусі.

На мой погляд не выключана, што падзеі будуць разгортвацца наступным чынам.

У бліжэйшы час пакіне Крэмль апошні расейскі імпэратар Барыс Ельцын. Нашчадкаў у яго няма. Пачнецца так званая "смута". Як у часы праўленьня Барыса Гадунова.

Насоўваецца новая каўказская вайна й грандыёзны развал расейскай імпэрыі. І мы маем шанец зрабіцца сьведкамі гэтых гістарычных падзеяў.

Маскоўскі палітычны істэблішмэнт у разгубленасьці. Яны пакуль не разумеюць, што насоўваецца на іх краіну. Ужо не дапамогуць ні Прымаковы, ні Яўлінскія, ні Лужковы, ні нават сам Госпад Бог. Як не дапамаглі (і не маглі дапамагчы) шматмільярдавыя даляравыя інвестыцыі. Чаму — размова асобная.

Ліміт існаваньня вялізнага імпэрскага ўтварэньня цалкам вычарпаны. Пачынаецца другі этап распаду імпэрыі. Першы прайшоў пры Гарбачове, калі развалiўся Савецкі Саюз. Захаду лепш не кідаць грошы ў расейскую "чорную дзірку", а думаць, што рабіць, каб развал быў кантралюемы, бо ў краіне шмат ядзернай зброі, а ва ўладзе другога Гарбачова зараз няма.

У гэтых умовах беларуская апазіцыя, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, павінна быць зацікаўлена ў распадзе імпэрыі. Далей можа адбыцца так, што суседнія Смаленшчына й Браншчына будуць прасіцца ўвайсьці ў склад Беларусі.

У гэтых варунках паўстае лягічнае пытаньне: да каго прытуліцца йснуючая ўлада на Беларусі, калі ня будзе "старэйшага брата"? Кажучы пра ўладу, я ня маю на ўвазе вузкую групоўку ў Менску. Яны ўжо падрыхтавалі запасныя аэрадромы й назапасілі паліва на дарогу. Ім усё адно, на якой зямлі жыць і дзе праядаць нарабаваныя ў беларускага народа грошы.

У першую чаргу я маю на ўвазе рэгіянальныя кіруючыя эліты: вертыкаль, партнамэнклатуру, асабовы склад сілавых ведамстваў. Ня думаю. што ў іх не спрацуе інстынкт самазахаваньня, бо на працягу апошняга стагодзьдзя гісторыя трэці раз можа даць шанец адбудовы беларускай дзяржавы. У іх тут ёсьць свае карані. Тут ім гадаваць дзетак і ўнукаў, тут жыць і паміраць.

Я лічу, што ёсьць усе магчымасьці аднаўленьня беларускай хаты, некалі парушанай "вызваліцелямі" кшталту Аляксандра Суворава. Ё сьць зямля, дадзеная Богам, якую ня трэба адваёўваць, як першым габрэйскім перасяленцам з Амэрыкі ў Палестыну. Ё сьць жывая мова, гісторыя, культура, традыцыі. Зрэшты, ёсьць свае героі й геніі — як у мінулай, так і ў сучаснай гісторыі. Толькі вось ці будзе падрыхтаваная апазіцыя да мяркуемых падзеяў? Ці скарыстае новы шанец мільён сьвядомых беларусаў?

Збываецца спрадвечная мара лепшых сыноў і дачок беларускага народу — імпэрыя зла пачынае адыходзіць у нябыт.

**Якаў Віцебскі**

Адрас рэдакцыі: Крапівінскае поле пад Воршай
Код 8.09. тэлефон 1514
Набрана й зьвярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ
Надрукавана ў друкарні Кастуся Каліноўскага

"Выбар". Заснавальнік: Віцебскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары"
Рэдактар Барыс Хамайда
Наклад 499
Замова — 77
Падпісана да друку 29.09.98 г.